Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Панядзелак, 2 червеня 1919 г. № 16.

## Цяперашні мамэнт і беларусы.

Загранічныя газэты пішуць, што Антанта задумала памагчы Расеі да вызваленьня з цяжкаго бальшавіцкаго ярма і што дзеля таго гатова прызнаць расейскі урад Калчака.

Вестка гэтая, трэба сказаць, досьць ўстрывожыла шмат каго з палітыкоў тых народаў, каторыя ідуць да поўнай палітычнай незалежнасьці.

Падробнасьці варункаў Антанты пакуль што яшчэ зусім не выяснены. У газэтах адзначана толькі, што Антанта пажадае памагчы расейскаму народу освабадзіцца і можа прызнаць Омскі урад адмірала Калчака толькі тады, калі ён згодзіцца прызнаць усе заваяваныя свабоды расейскага народа і пастарaецца склікаць як можна найхутчэй Устаноўчы Сойм. Калі адмірал Калчак прыймець гэтыя варункі, гасударствы Антанты зараз жа пасьля прызнаньня новага Расейскага Ураду, вышлюць паслоў для перагавораў і дапусьцяць прэдстаўнікоў Расеі на конфэрэнцыю у Парыжы.

Бышыя расейскія міністры як Сазоноў, Керэнскі і другія працуюць у гэтым кірунку моцна і не зrаджаюцца ніяк на адлучэньне ад Расеі, бышых яе «акраін». Яны у салодкіх славах даюць абецанкі поўнай аўтономіі, прызнаньня правоў развіцьця кожнай народнасьці паасобку, але толькі у звязі з Вялікай Расеяй.

Пытаньне быць ці ня быць мусі цяпер быць пастаўлено кожным народам, каторы меў несчасьце быць пад расейскім уціскам.

Мы беларусы добра ведаем, што значаць расейскія абецанкі, бо бачылі і пачулі на сваей скуры, як выглядае расейскае прызнаньне права народнасьці на сваё развіцьцё.

Ня тут кажучы, паказало нам гэта паступовае расейскае грамадзянство, якое ніколі нас за народ прызнаць не хацело, так сама паказалі нам гэта расейскія сацыялісты-бальшавікі, якія прызналі незалежнасць Беларусі, але беларусаў да ураду не дапусьцілі і ад незалежнай Беларусі адарвалі Віцебшчыну і Магілёўшчыну.

Мы, беларусы, ідзём да поўнай палітычнай незалежнасьці і непадзельнасьці, што ужо было апавешчэна ўсяму сьвету, адрачыціся ад гэтага ніяк і ніколі ня можам і нашым апякунам з Бела-Польшчы як і з Вяліка-Расеі адказаць адно можам: «Hands off!»

Справу нашую на кангрэссі абароніць наша Рада Рэспублікі, якая адна толькі мае права высказывацца у пытаньнях нашае палітыкі.

**Юры Олельковіч.**

---

## Незалежнасьць Літвы.

Тэлеграф прынёс вестку аб тым, што урад Веліка-Брытаніі прызнаў незалежнасьць гасударств: Чехіі, Польшчы і Фінляндыі.

Разам з тым Англіяй прызнаны народныя рады Эстоніі і Літвы, як незалежныя адзінкі.

Покуль што не гаворыцца яшчэ аб прызнаньні Англіяй незалежнасьці гасударства Літоўскаго і так сама гасударства Эстонскаго. Англія афіцыяльно прызнала покуль што толькі парлямэнты Літвы і Эстоніі, праз каторыя будзе гаварыць з кожным народам па асобку. Выходзіць як бы так, што Англіяй прызнаецца факт істнаваньня і юрыдычнай правамочнасьці Літоўскай і Эстонской Народных Рад.

Нас цікавіць больш ўсяго прызнаньне Англіяй Літоўскай Тарыбы, як народнаго прэдстаўніцтва Літвы. За гэтым прызнаньнем павінна наступіць прызнаньне незалежнасьці і гасударства Літоўскага.

Мы вельмі жадаем, каб гэты момэнт прыйшоў найхутчэй і каб Літва—народ што ўвесь час змагаецца за сваю незалежнасьць, была прызнана незалежнай. Мы цьвёрда верым, што так і будзе, бо калі Антанта супраўды стаіць на пазіцыі самаазначэньня народаў, то яна павінна адбудоваць і незалежную Літву.

Мы ведаем так сама, што ад таго ці іншага будучаго Літвы залежыць і будучыня Беларусі.

Абодва народы—Літоўскі і Беларускі жылі калі-сь та ў адным гаспадарстві і жылі дружно па брацку, не прыціскаючы друг друга. Літоўцы не думалі аб літвінізацыі беларусоў, а беларусы аб беларусізацыі літвіноў. Гісторыя, аднак, пайшла не так, як трэба было для абодвых народаў і цяпер мы бачым, што і літвіны і беларусы старяюцца дабіцца, каб іх прызналі незалежнымі, т. е., каб літоўскі і беларускі народы перэсталі служыць лялькай ў чужых руках і каб іх зямля перэстала маніць к сабе ахвотнікоў да чужога дабра.

І Літва і Беларусь і слухаць не хочуць ні аб якіх аўтаноміях ў саставе Расеі ці Польшчы, бо гэта так сама-загушованая няволя.

Калі Літва ці Беларусь захочуць стварыць з сваімі суседзямі унію, фэдэрацыю ці конфэдэрацыю, то яны гэто зробяць пасля таго, як стануць напэўна нязалежнымі, а покуль гэтага німа, то Літоўцы, як і Беларусы—можна наўперад сказаць,—ні на якія згоды ні с кім з суседаў не пойдуць, хоць бы *каму гэта-ж хацелася*.

І вось цяпер, калі мы бачым, што з аднае стараны—Польшча, а з другой—Расея (Колчак) гатуюцца, каб далучыць нас да сябе, ані раючыся ў сваіх дамаганьнях на старыя сваі з намі сувязі, дык мы мусім яшчэ мацней падкрэсліць, што пара панщыны слава Богу мінулася і ні ў кога німа права накладаць на нас ланцугі, а калі хочуць, каб мы з імі па сусецку добра жылі, дык няхай ведаюць, што мы першыя гэтага хочам, гаворучы, што добрае суседство мае быць магчымым, калі і мы будзем раўныя, свабодныя і незалежныя, як нашы суседзі.

Ці удасца уцяміць нашым суседзям гэтую простую праўду, трудна сказаць, але-ж вельмі ўсё-ж цікаўна, што гэтыя добрыя нашы суседзі саўсім не гавораць аб тым, чаго Беларусам і Літоўцам трэба,—аб нашай незалежнасьці, а ўсе таўкуць і жуюць адну патраву—аўтономія, унія, фэдэрацыя і т. д.

Пачакаем... Літва добра вядзе сваю справу, не гледзючы на перашкоды ворагоў; яна дабілася уже полупрызнаньня сваёй незалежнасьці. Скора павінно прыйсьці і поўнае прызнаньне.

Разам з Літвай дастаня незалежнасьці і Беларусь. Пажадаем, каб гэта спраўдзілася, як найхутчэй.

**Лук—аш.**

Белеўскі. Выбраны Нацыянальны Беларускі Камітэт павінен выдзеліць з сябе прэзыдыюм: Старшыню, 2 Товарышоў Старшыні, 2 сэкрэтароў і 1 скарбніка.

Старшыня Сходу грам. Алексюк апавяшчае грам. юрыстаў, артыстаў і ваенных аб тым, каб яны асталіся у залі пасьля сходу, каб згаварыцца паміж сабой і згуртавацца.

Зачыняючы сход грам. Алексюк высказывае цьвёрдую надзею, што узыйдзе сьветлае вялікае жыцьцё для Беларусі. Апошнія словы яго прамовы: «Няхай жывець Вольная Незалежная Беларусь» падтрымліваюцца горача усім сходам.

Годзі нам ўжо марнавацца
За сабакаў гінуць.
Лепшых дзён дачэківацца,
Покуль к нам нахлынуць!
Заваюем жыцьцё самі,
Як ўсе народы!
Будзем вольнымі арламі
Рвацца да свабоды.
Шчасьця у жыцьці пакаштуем,
Выбяромся з гразі,
На свабодзе запануем
Як паны і князі!
Бачу зорку я над намі,
Што да жыцьця кліча,
Сваймі яснымі лучамі
Шчасьця, долі зыча.
Гэй старонка маладая
Прачыхайся к жыцьцю!
Устань на ногі, дарагая
Да цябе я клічу!

*М. Арол.*

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

— Французкая міссыя у Коўне перэдала нямецкаму камандаваньню прысланы з Парыжа ультыматум, у каторым Антанта вымагае, каб немцы ураз жа пакінулі Коўна-Сувалкі ды усе свае войскі вывелі за даўнейшую граніцу з Расеяй. Немцы на гэта згодзіліся і ў бліжэйшыя дні пакінуць Літву.

— Добра вядомы беларусам з бабруйскіх падзей генэрал Довбор-Мусьніцкі аддаўся пад загад Начальніка Гасударства Язэпа Пілсудзкага.

— Немцы ніяк ня хочуць згодзіцца, каб аддаць Польшчы Сілезію ды Прусы Каралеўскія і Князеўскія.

— Амаль цэлая Галічына ўжо заваёвана польскімі войскамі. Узяты места Злочоў і Броды.

— Галіцыйскія украінцы высказываюцца за сувэрэнную украінскую рэспубліку як частку расейскай фэдэрацыі.

— Антанта энэргічна прыготовываецца да марша у глыб Нямеччыны, каліб мір ня быў падпісаны.

— Адмірал Калчак увайшоў у зносіны з генэралам Дэнікіном, пры чым выясьнілася згоднасьць іх паглядоў на прынцыпіяльныя задачы, дзеля каторых ваююць абедзьве арміі.

— У Вэнгрыі румынская армія пасовываецца усё больш і больш; вэнгерскі народ вітае яе як асвабадзіцельку ад дзікай дыктатуры пралетарыята.

— Народны бальшавіцкі каміссар Зіноў'ев (даўней Апфельбаум) аткрыта заявіў, што у хфабрыках амуніцыі праца спынілася.

— Нямецкія рабочыя ня хочуць вайны і ня здаволены з ураду сацыялістаў Эбэрта і Шэйдэмана.

— Часьць Шлезвіка забраная Даніі праз немцаў у 1866 гаду будзе ізноў прылучэна да Даніі.

— Швайцарыя катэгорычна адмовілася прыступіць да блокады Нямеччыны на выпадак вайны.

— У Менск прыехала з Масквы спэцыяльная камісcыя з загадчыкам таварышам Мінінам, каб правясьці дазнаньне і сьледзтвіе у справе віленскіх падзей. Віноўныя атдачы Вільні будуць цяжка пакараны.

## Кліч.

(*Ахфяруецца А. Уласаву*).

Гэй ты, цёмны люд бяздольны,
Скрыўджаны судзьбою,
Падымайся падняволны
Моцнаю сьцяною!
Ты ваюй за лепшу долю
Шчасьця дабівайся.
Гэй ўперад, усё на волю
К жыцьцю прачыхайся!

## Беларусь.

### Беларуская дыплёматычная міссыя у Чэскай Празе.

Газэта „Ceské Slovo“ у № 21 піша: „Колькі днеў таму назад прыбыла дыплёматычная міссыя Беларускае Народнае Рэспублікі па дарозі на Украіну. Міссыя прабудзе у Празе колькі днеў. Задача міссыі у Празе навязаць тымчасовыя зносіны паміж Рэспублікай Чэска-Славацкай і Беларускай, апрача таго у найбліжэйшых днях мае быць у прэзыдэнта Масарыка беларускі старшыня міністраў Антон Луцкевіч.

### Што чуваць у Менску?

Людзі, прыйшоўшыя пехатой з Менску, апаведаюць, што там усіх цягнуць у Чырвоную Армію. Сэпцыялістаў прымушаюць працаваць толькі для Арміі.

## Бяз хлеба.

(*Віленскі абразок*).

Ён стаіць апёршыся аб сьцену і заплаканымі вачыма глядзіць у неба, шэпчучы малітву дрыжачымі вуснамі. Ля яго праходзе нейкі абарванец, паня з там ізноў пан...

Просіць ён аб літасьці, даць колькі грошы, каб мог купіць у..... народнай кухні стравы для галоднай жонкі і дзяцей... але ніхто на яго увагі не зьвертае.

— Божа, мой Божа! Ня ўжо-ж ня знойдзецца які літасьцівы чалавек? Цэлы дзень хаджу, работы нідзе німа, а жонка і дзеці ад ўчора ня мелі у вуснах ні драбінкі хлеба...

І ізноў пагружаецца у думках... Паправляець пілу і тапор на сваіх плячох... Такі ён стаў яму цяпер цяжкі... а усё-ж такі—ён і не стары і не хворы...

* * *

Дзьве асобы сунуцца па Сьвята Юрскім праспэкці: гутараць між сабою аб свабодзі, роўнасьці ды аб апошнім выйгрышы пры „зялёным“...

— Паночкі даражэнькія! Памажыця беднаму... Цэлы дзень хаджу шукаючы працы і нідзе ёй знайсьці не магу... Жонка і дзеткі млеюць ад голада!...

Але асобы звольна пасоўываюцца.. Аб свабодзі і роўнасьці ужо ні слова... Урэшці нікне іх цень і толькі гоман іх слоў аб „зялёным“ і нейкім вялікім выйгрышы адбіваецца рэхам аб вуха беднага дравасека...

* * *

Бьець на катэдральнай званіцы дзесяць гадзін... А ён ўсё стаіць... Раптам сьціснуўшы кулакі, пасылае моцнае праклцьце багатым і моцным гэтаго сьвета і іх справядлівасьці...

А там?...

Там галодныя дзеткі чакаюць хлеба... там бедная маці пацешае іх, што... прыйдзе бацька і прынясе хлеба...

Дзеці супакоіваюцца і прытуліўшыся да матчыных кален, раз у раз паглядаюць на дзьверы...

Раптам даюцца чуць чыесь прысьпешаныя крокі...

Дзьверы з шумам адчыняюцца і ён стае у дзьвярох...

Дзеці з балючай усьмешкай на вуснах, бытцым бы хацелі высказаць свой жаль, што так... доўга чакалі на хлеб, затрымліваюць свае вочы на бацьцы і разам кідаюцца да яго з радасьцю...

Але раптам з жахам адкідываюцца назад... Бацька стаіць з дзікім поглядам, са сьціснутымі вуснамі і кулакамі, ажно ня вытрымаўшы болі пачынае горка, горка плакаць...

Урэшці падыходзіць да дзяцей, садзіцца на зэдлік і пачынае прытуляць іх да свайго збалелага сэрца... Сьлёзы капаюць па яго зморшчэным твары і падаюць на ясныя галоўкі дзетак...

Агонь у грубе пачынае гаснуць, робіцца цёмна і страшна у хаце беднага дравасека...

Цішу і спакой перэрываець толькі надрываючы сэрцэ плач...

Яны засыпаюць галодныя... яны спяць дрыжачы ад холада і голада, чакаючы лепшага заўтра...

А заўтра?

Заўтра іх чакае, быць можа, другое такое „заўтра“!...

* * *

Дзьве асобы у вялікім пакою пры шампанскім у вясёлай гутарцы і сьмеху сідзяць абняўшыся з дзеўчатамі...

Што ім гора, што ім голад бедных людзеў, яны свабодны, багаты і карыстаюць з поўнай чары жыцьця!

Яны пьюць за свабоду і роўнасьць за лепшую яшчэ... для ніх будучыню! Яны пьюць і пьюць, не зважаючы на тое, што віно нейк зрабілося горкім на дне шклянцы...

На дно гэна шклянкі папалі горкія сьлёзы галодных людзеў.

К. Л.

Даражыня страшэнная: хрфнт хлеба 30 рублёў, мяса німа. Народ галадае. Бальшавікі ходзяць і рэквізуюць усе прадукты як у горадзі, так і па вёсках.

Часьць камісарыятаў (тэхнічны аппарат ды архівы) пераехалі у Бабруйск, адны толькі народныя камісары ды Рада па абароне астаюцца у Менску.

### Голад на Беларусі.

Польская бальшавіцкая газэта «Młot», што выходзе цяпер у Менску піша: «Дзеля нідахвату семян на Беларусі абсеяно толькі 35 працэнтаў усяе зямлі». Німа дзіва, што народ адносіцца вельмі варожа да бальшавікоў. З гэтаго вынікае тое, што аб бальшавіцкай пралетарскай дыктатуры на вёсках ня можа быць і гутаркі.

А тымчасам голад ужо пануе, пашыраецца, грозіць сьмерцяй цэлым вёскам, калі ня прыйдзе іншае вызваленьне.

## У Вільні.

### Унівэрсытэт у Вільні.

У восені гэтаго году мае быць адкрыты у Вільні унівэрсытэт.

23 траўня адбыўся сход, на каторым апрача віленскіх навуковых сіл былі госьці з Варшавы: Вржосэк, Ліхтаровіч, Эрэнкройц і Владычко.

Пакуль што німа ведама, ці гэта будзе унівэрсытэт толькі для палякоў, ці і для іншых нацый края.

Само сабою разумеецца што ў унівэрсытэці патрэбна катэдра гісторыі Беларусі, гісторыі беларускаго пісьменства і беларускае мовы.

Ці грамадзкіе дзеячы Вільні стануць на высокасьці навукі і пазьнаньня края, адкідаючы нацыянальны шовінізм, час пакажа.

### Госьць з Ватыкану.

Апостальскі каталіцкі візытатар монсіньор Ратті, назначаны на усе зямлі належачыя да Расеі, маніцца хутка прыехаць у Вільню.

### Госьці са Слуцкаго павета.

У нядзелю 1-го чэрвеня прыйшлі пехатою у Вільню са Слуцкаго павету вядомая беларуская дзеячка, народная вучыцялька, Паўліна Мядзёлко са сваім братам народным вучыцялям.

### Прыезд ксяндза Годлеускаго.

У першых днях чэрвеня маніцца да нас прыехаць з Несьвіжа вядомы беларускі дзеяч, сябра Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, быўшы рэдактар беларускай часапісі „KRYNICA“ ксёндз Годлеўскі. Можа ад ксяндза Годлеўскаго даведаемся аб долі прафэссара Марьяна Массоніуса, аб каторым ходзяць чуткі што ён разстрэлян бальшавікамі у Несьвіжы.

### „Канаркі“ працуюць.

28 мая арыштавано літвіноў К. Амброзайтіса і загадчыка Віленскай мэтэорологічэскай станціі пана Пашкініса.

### Рэвізыі.

27 мая у гасьцінніцы «National» (Вялікая Пагулянка 1) зрабілі рэвізыю. Калі ўласьнік гасьцінніцы пан Лукшо даў адьютанту начальніка паліцыі Снарскому пасьвядчэньне выданае Харкоўскай Літоўскай Радай, шаноўны прэдстаўнік польскай паліцыі крыкнуў: «Што гэта за паперы! Прыказываю заўтра выдастаць *польскі* пашпарт. Прашу навучыцца па польску: тутака Польшча, а я не хачу гаварыць з панам у іншай мове».

### Пропускі.

Ходзяць чуткі, што пропускі на выезд, каторыя так трудна дастаць, можна атрымаць у сябе у хаці за 500 марак зараз жа пасьля аддачы просьбы. Ці гэта мажліва?

Прыехаўшыя з Варшавы людзі апавядаюць, што варшаўскія установы, дзе выдаюцца пропускі, ня могуць ніяк уцяміць чаму віленскія уласьці выдаюць адны толькі пропускі у старану Варшавы, а адмаўляюцца даваць такія-ж пропускі туды-й-назад. На што і каму патрэбны гэткі хаос і лішняе марнаваньне часу?

## З усіх старон.

### Кангрэсс міра.

Француская газэта „Temps“ піша, што прэдстаўнікі Аўстрыі атрымаюць тэкст трактата праз колькі дзён, дзеля таго, што Італія ня хоча згадзіцца на новую граніцу паміж Аўвстрыяй і Югославіяй пакуль граніца між Італіяй і Югославіяй не выяснена.

### Немцы і непадпісаньне трактата.

Англійская газэта «Times» піша, што англійцы гатовы, каліб немцы не падпісалі трактата, ісьці у глыб Нямеччыны. Дзеля гэтаго прыгатоўлено навет тры арміі Злучаных Амэрыканскіх Штатаў, каторыя стаяць і чакаюць.

### Узяцьце Рыгі і Дзьвінска

З Лібавы пішуць, што быццам латышская гвардзія узяла Рыгу і Дзьвінск. Большая частка народных камісараў у Рызе разстрэляна.

### Мурман.

21 траўня (мая) на Мурман прыбылі новыя англійскія войскі.

### Справа Расеі

У Парыжы усё яшчэ займаюцца развязаньнем расейскаго пытаньня. Хочуць прызнаць урад адмірала Колчака, калі ён згодзіцца не уввадзіць царызма ды прызнаць незалежнасьць Польшчы, Літвы і Эстоніі.

### З'езд саветаў польскіх бальшавікоў.

У Варшаве 31 мая мае быць з'езд агульна-польскі усіх радаў рабочых дэпутатаў.

### Прызнаньне Літвы.

У англійскім парлямэнці апавешчэна, што Англія прызнала Народную Раду (Тарыбу) Літвы.

### Французская міссія у Лібаве.

Французская вайсковая міссія прыехала у Лібаву і увайшла у стасункі з урадам Латвіі.

### Валлоны і французы.

Супольнае жыцьцё валлонаў і французаў у Бэльгіі робіцца вельмі цяжкім. Ведома, што немцы у часе аккупацыі Бэльгіі вельмі падтрымлівалі валлонаў, як асобны народ, каторы па мове не падобны французам. Цяпер бэльгійскі парлямэнт вынёс пастанаўленьня, каб разгледзець валлонскае пытаньне і ўсю нацыянальную справу валлонаў як аддзельнаго народа.

### Катэдра у Рэймсе.

Знамянітая памятка старасьвецкаго будаўніцтва катэдра-сабор у Рэймсе, збурэная немцамі, мае быць адбудована. Арганізаваўся камітэт, у каторы уваходзяць паміж іншымі каралевы данская, нарвэжская і швэдзкая.

### Пошэсьць танцоу.

Газэта «Temps» піша, што цэлы Парыж пачаў хварэць на танцы. Танцуюць усе: арыстакраты, дэмакраты, сацыалісты і уся дробная бедната.

Нешта падобнае пісалі ужо аб цяперэшнім Бэрліне.

Тое самае было у Петраградзі пасьля першай рэвалюцыі.

У нас на Беларусі у часе нямецкай аккупацыі так сама страшэньне танцавалі і гулялі у карты асабліва у Менску.

Цяпер пад гнётам чужых людзей, пры голадзе і неяснай будучыні беларусам не да танцаў...

**БЕЛАРУСКАЯ РАДА** памяшчаецца на Востра-Брамскай вул., д. № 9.
Старшыня Рады прымае што дзень, апрача сьвят, ад 1 да 2.
Сэкрэтар прымае у панядзелак, сераду і пятніцу ад 3 да 4.

## АБВЕСТКІ:

**Здаровыя хатнія обеды** ад 1 да 4 гадзіны.
Ганчарская вул., д. 7, кв. 8.

Практычная вучыцелька, добра ведае французкую і нямецкую, мову, дае лекцыі з усіх прэдметаў. Астрабрамская 9. Уваход як у рэдакцыю «Беларускае Думкі», пакой № 2, налева ад 3—7 гадзіны.

**Усіх,** хто ведае аб Еўгеніі Саўчык, жонцы шофэра, каторая паехала 18 красавіка (апрэля) у Менск да сваіх, прашу паведаміць па адрасу: Прэображэнская (Людвісарская) 4, шофэру Саўчыку.

**Вуч. Краскоўскага** рэдакцыя прасіць у яго справе зайсьці ў рэдакцыю сяньня або заўтра ў 12 гадз. дня і зьвярнуцца да І. С.

Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі.

Друкарня «Віленскаго Выдавецтва», Мала-Стефаноўская, 23.